Мытня: спачатку грошы — потым аўтамабілі (стар. 2)
Камуністы выйшлі на шлях перамен (стар. 4)

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Намеснік галоўнага рэдактара Усевалад Рагойша
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты СВАБОДА
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі: 220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Пятніца, 15 жніўня 1997 г. № 89 Кошт свабодны

# Апошні сродак – галадоўка

Лёс здымачнай групы ОРТ, арыштаванай беларускімі ўладамі, абмяркоўваецца ўжо ў расійскіх вярхах. Гэтая тэма закраналася ў Крамлі на сустрэчы прэзідэнта Ельцына са спікерам Савета Федэрацыі Ягорам Строевым. Спікер лічыць, што гісторыя з арыштам расійскіх журналістаў *«набыла непатрэбны палітычны напал, які можна зняць у рабочым парадку»*. Строеў перадаў просьбу беларускага пасла ў Расіі пра сустрэчу з Барысам Ельцыным. У расійскай амбасадзе яшчэ невядома, калі адбудзецца сустрэча. Між іншым, жонка П.Шарамета Наталля ў лісце да Таццяны Дзячэнка, дарадцы і дачкі Барыса Ельцына, просіць абараніць яе мужа. Пакуль Крэмль збіраецца з сіламі і разважае, ці вызваляць расійскіх журналістаў з беларускай турмы, дырэктар мінскага бюро ОРТ Павел Шарамет ужо трэція суткі трымае галадоўку за кратамі. Гэта апошні сродак у Шарамета, каб выказаць пратэст супраць незаконнага ўтрымання пад вартай.



*На здымку: маці Паўла Шарамета, адвакат Гары Паганяйла, маці Дзмітрыя Завадскага.*

У дворы дома, дзе знаходзіцца мінскае бюро ОРТ, адбылася прэс-канферэнцыя адваката Гары Паганяйлы, які паведаміў, што галадоўка можа прывесці да абвастрэння хранічнага захворвання нырак у Паўла Шарамета. Акрамя таго, у Паўла развіваецца бранхіт. Менавіта па гэтай прычыне адвакат не раіў свайму падабароннаму пратэставаць такім спосабам, аднак *«галадоўка —гэта грамадзянскі ўчынак»*, падкрэсліў Г.Паганяйла.

Як вядома, суддзя Ленінскага раённага суда Гродна Зоя Нікольсая пакінула журналіста пад вартай, не выпусціўшы яго пад падпіску аб нявыездзе. Аднак, па словах Г.Паганяйлы, *«псіхалагічны стан П.Шарамета нармальны, ён умее трымаць удар»*. У камеры няма радыё, тэлевізар не падключаны, а газеты чытаць забаронена. Да гэтага часу Паўлу Шарамету не дазволілі сустрэчу з роднымі. Гары Паганяйла лічыць, што затрыманне здымачнай групы ОРТ было незаконным і няма юрыдычных падставаў для крымінальнага пераследу. Пасля адхілення хадайніцтва Ленінскім райсудом адвакат рыхтуе скаргі ў абласны суд і ў пракуратуру Гродзенскай вобласці. Дарэчы, гродзенскі пракурор адмовіўся пацвердзіць або абвергнуць інфармацыю аб галадоўцы П.Шарамета, сказаўшы, што гэта *«пытанне следства»*.

У сераду, 13 ліпеня, на кватэрах Паўла Шарамета і аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага, які таксама ўтрымліваецца за кратамі ў Гродзенскай турме, было праведзенае апісанне маёмасці. Нагадаем, што супрацоўнікам расійскага тэлебачання пагражае да 5 гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасці, калі іх прызнаюць вінаватымі ў незаконным пераходзе беларуска-літоўскай мяжы.

Адказваючы на пытанні журналістаў, Гары Паганяйла сказаў, што прэзідэнт Лукашэнка сваімі публічнымі заявамі робіць незаконны ўціск на следства і парушае прынцып прэзумпцыі невінаватасці. Па словах Паганяйлы, найбольш разумнае выйсце падказаў прадстаўнік ЕС у Беларусі Аад Коста. Расійскіх журналістаў трэба вызваліць з-пад варты, а следству даць магчымасць ва ўсім аб'ектыўна разабрацца.

Пакуль што ўсё наадварот: беларускія ўлады ціснуць на абарону. Гары Паганяйла быў выкліканы ў міністэрства юстыцыі на паседжанне кваліфікацыйнай камісіі, якая збіраецца пазбавіць яго адвакацкай ліцэнзіі. Пракуратура РБ прыслала ў мінюст прадстаўленне наконт нібыта неэтычных паводзінаў адваката, якія звязаныя з публічнымі выказваннямі яго па справах Паўла Шарамета, Тамары Віннікавай і Славаміра Адамовіча.

Акрамя таго, у мінюст паступіла прыватнае вызначэнне гродзенскай суддзі Зоі Нікольскай, якая абвінавачвае адваката Паганяйлу ў парушэнні працэсу. Суддзі не спадабалася, што Гары Паганяйла адмовіўся даць падпіску аб неабвяшчэнні дадзеных судовага працэсу. Міністэрства юстыцыі перанесла разгляд «справы Паганяйлы» на нявызначаны тэрмін. Сам Гары Паганяйла лічыць, што *«гэтая акцыя рыхтавалася даўно, толькі момант аказаўся не зусім удалым. Забарона адвакацкай дзейнасці выглядала б проста адыёзна»*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Адвакат лічыць, што Аўчыннікаў і Завадскі невінаватыя

**Адвакат Алена Ёрш накіравала ў рэспубліканскую пракуратуру хадайніцтва аб спыненні крымінальнай справы супраць вадзіцеля здымачнай групы ГРТ Яраслава Аўчыннікава.**

Аўчыннікава абвінавачваюць у саўдзеле ў перасячэнні дзяржаўнай мяжы па папярэдняй змове групай асоб. У якасці падставы для спынення крымінальнага пераследу Я.Аўчыннікава адвакат называе адсутнасць складу злачынства, па якім абвінавачваецца супрацоўнік ГРТ.

Алена Ёрш таксама накіравала ў суд Ленінскага раёна Гродна скаргу з просьбай змяніць меру стрымання аператару здымачнай групы ГРТ Дзмітрыю Завадскаму — з утрымання пад вартай на падпіску аб нявыездзе. На думку адваката, Д.Завадскі не ўяўляе небяспекі для грамадства і ў яго дзеяннях няма складу злачынства, якое інкрымінуецца яму следствам.

*БелаПАН*

## Раённы суд паспяшаўся

**Учора раніцай на кватэру сябра ўправы БНФ Барыса Гюнтэра заявіўся судовы выканаўца — апісваць маёмасць.**

Рэч у тым, што за ўдзел 14 сакавіка ў акцыі «Беларусь у Еўропу-2» суддзя Партызанскага раёна Мінска Трубнікаў аштрафаваў сп.Гюнтэра на 5 мільёнаў рублёў. Б.Гюнтэр абскардзіў гэтае рашэнне ў Вярхоўным Судзе, і адказу адтуль яшчэ не атрымаў. Пакуль скарга знаходзіцца ў вышэйшай судовай інстанцыі, прыгавор не можа ўступіць у законную сілу. Тым не менш гэты факт мала цікавіць суд Ленінскага раёна сталіцы, які прыслаў свайго чыноўніка апісваць маёмасць апазіцыянера.

**А.Н.**

## Валюты не стала больш

**Нацыянальны банк Беларусі ўнёс чарговыя змены ў парадак продажу наяўнай валюты насельніцтву.**

Згодна з новымі правіламі, любы грамадзянін можа набыць у банкаўскім абменным пункце валюту на суму да 500 долараў ЗША ў суткі (раней мяжа была ў 200 долараў).

Незалежныя спецыялісты лічаць, што апошняе распараджэнне Нацбанка нельга разглядаць як захад, накіраваны на лібералізацыю фінансавага рынку. Як вядома, урад планаваў перайсці да лібералізацыі валютнага рынку да пачатку другога паўгоддзя, аднак гэтыя планы выканаць не ўдалося і наўрад ці ўдасца бліжэйшым часам.

*БелаПАН*

### *Мяжа*

Беларускі пасол у Варшаве В.Бурскі і першы намеснік міністра ўнутраных справаў Польшчы Ю.Каліш перадалі прадстаўніку Еўрапейскай камісіі сумесны беларуска-польскі зварот. У дакуменце выказваецца просьба выдзеліць фінансавыя сродкі на абуладкаванне беларуска-польскай мяжы.

### *Авія*

19 жніўня у аэрапорце Мінск-2 адчыніцца сучасная секцыя нямецкай авіякампаніі *Lufthansa*. Упершыню ў Беларусі рэгістрацыя будзе камп'ютырызаваная, што стварае дадатковыя зручнасці для пасажыраў.

### *Маладая Грамада*

Дэлегацыя маладзёжнай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі «Маладая Грамада» вярнулася са Швецыі, дзе брала ўдзел у 29-м Кангрэсе сацыял-дэмакратычнай моладзі гэтай краіны. Беларуская дэлегацыя была адзінай запрошанай на форум з усіх краін СНД.

## Улады сімулююць прарыў міжнароднай ізаляцыі

**Прыватны візіт дэпутата швейцарскага парламента і Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Эрнста Молемана ў Беларусь афіцыйная прапаганда ператварыла ў надзвычайную міжнародную падзею.**

Эрнст Молеман накіраваўся ў Беларусь, каб праехацца па шагалаўскіх мясцінах і пазнаёміцца з сітуацыяй у краіне. Аднак беларускія ўлады абставілі гэтую паездку неадпаведным антуражам: з швейцарскім дэпутатам пажадаў сустрэцца нават сам Лукашэнка і кіраўнікі «нацыянальнага сходу».

Афіцыйная прапаганда свядома дэзінфармуе людзей, прыпісваючы паездцы Молемана характар быццам бы міжпарламенцкага супрацоўніцтва паміж Еўропай і лукашэнкаўскімі палатамі. Аднак факт застаецца фактам: сённяшні беларускі рэжым не шануюць у еўрапейскіх структурах. Акрамя хіба Расіі, прызначаны Лукашэнкам «нацыянальны сход» нікім не прызнаны і знаходзіцца ў поўнай міжнароднай ізаляцыі.

Пры гэтым беларускія ўлады вылузваюцца са скуры і ствараюць зусім недарэчныя сітуацыі. Нагадаем: увесну італьянскі дэпутат прыязджаў у Беларусь, каб урэгуляваць пытанні, звязаныя з усынаўленнем дзіцяці. Яго адразу ж запрасілі да Лукашэнкі, а афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі крычалі, што дэлегацыя італьянскага парламента прарвала міжнародную блакаду Беларусі.

Цяпер прыкладна тое ж прыпісваюць Эрнсту Молеману. Ягоная пазіцыя супадае з афіцыйнай пазіцыяй Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, ён выступае за правядзенне ў Беларусі новых парламенцкіх выбараў з захаваннем усіх канстытуцыйных і дэмакратычных нормаў. Але пра гэта афіцыйныя СМІ пастараліся прамаўчаць.

**А.С.**

**КАНФЛІКТ**

## Вернікі будуць бараніць касцёл у Нясвіжы

Хцівасць лукашэнкаўскіх чыноўнікаў не ведае межаў. Мы ўжо неаднаразова паведамлялі, як у Мінску і іншых гарадах падначаленыя Івана Ціцянкова нахабна забіраюць у ранейшых гаспадароў лепшыя будынкі.

Вучні Беларускага гуманітарнага ліцэя і Саюз пісьменнікаў яшчэ працягваюць весці няроўную барацьбу з галоўным прэзідэнцкім гаспадарнікам. А тым часам пад прэзідэнцкі кантроль вырашылі ўзяць нават месцы правядзення набажэнстваў. Рэлігійныя канфесіі пакуль застаюцца, бадай, апошнімі інстытутамі, не да канца падкантрольнымі дзяржаве. Але ўсе дыктатарскія рэжымы заўжды імкнуліся альбо знішчыць Царкву, альбо падпарадкаваць яе сваёй волі.

Напрыканцы ліпеня ў нясвіжскі Фарны касцёл прыехала прэзідэнцкая камісія на чале з памочнікам Лукашэнкі па асобых даручэннях Віктарам Кучынскім. Як заявіў Кучынскі пробашчу нясвіжскай парафіі ксяндзу Генрыку Акалатовічу, камісія выконвае прэзідэнцкі загад і павінна агледзець пахавальны склеп князёў Радзівілаў, а таксама апісаць рэчы, якія знаходзяцца ў сутарэннях касцёла. Лукашэнкаўскія «даследчыкі» прывезлі з сабой шмат розных прыладаў для бурэння цэглы і паведамілі кс.Акалатовічу, што яны збіраюцца рэзаць касцёльныя падмуркі. Ксёндз заявіў, што праводзіць падобнага роду работы можна толькі з дазволу кардынала. *«Нам ваш кардынал не ўказ,* — адказаў Кучынскі. — *Калі трэба, мы і з Папам Рымскім разбярэмся»*.

Проста, няхітра, па-бальшавіцку. Відаць, Кучынскі сапраўды лічыць, што любыя пытанні можна вырашыць з дапамогай гранатамёта.

Як сцвярджае кс.Акалатовіч, нясвіжскія ўлады даўно вядуць вайну з мясцовай каталіцкай парафіяй. СВАБОДА паведамляла, як у чэрвені райвыканкамаўскае начальства з дапамогай міліцыі затрымала групу польскіх навукоўцаў, якія даследавалі пахаванні Радзівілаў. Пробашч гаворыць, што ўлады распаўсюджваюць сярод людзей чуткі, быццам ксёндз вывозіць з радзівілаўскага склепа каштоўнасці за мяжу. На думку кс.Акалатовіча, усё гэта робіцца для таго, каб забраць касцёл у вернікаў.

Улады хочуць зрабіць храм часткай музея-запаведніка. Ксяндзу ўжо неаднаразова прапаноўвалі перадаць касцёл на баланс дзяржавы, а парафію за гэта быццам бы абяцаюць вызваліць ад падаткаў. Кс.Акалатовіч гаворыць, што пакуль ён пробашч у Нясвіжы, Фарны касцёл будзе домам Божым, як і папярэднія 400 гадоў. А супраць экскурсіяў у склеп-пахаванне Радзівілаў ксёндз ніколі нічога не меў.

Прэзідэнцкія кантралёры не заўважылі ніякіх парушэнняў у захаванні каштоўнасцяў, ніводная рэч са склепа не знікла. Тым не менш ад ідэі зрабіць у Фарным касцёле музей улады адмаўляцца не збіраюцца, а Кучынскі паабяцаў кс.Акалатовічу прыехаць з наступнай камісіяй у верасні. Нясвіжскія каталікі тым часам рыхтуюцца да абароны сваёй святыні, —паведаміў кс.Акалатовіч.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Дзе працую – там і пікетую

**Мінгарвыканкам дазволіў Саюзу пісьменнікаў Беларусі правесці пікетаванне Дома літаратара.**

Акцыя адбудзецца 19 жніўня з 16.00 да 18.00. Як паведаміў старшыня Саюза пісьменнікаў Васіль Зуёнак, асноўнай мэтай акцыі з'яўляецца абарона права пісьменнікаў на сваю ўласнасць. «Мы хочам давесці да ведама грамадскасці, што Дом літаратара быў, ёсць і будзе ўласнасцю Саюза пісьменнікаў», — заявіў Васіль Зуёнак. Такім чынам пісьменніцкая арганізацыя мае намер выказаць свой пратэст у сувязі з прэзідэнцкім распараджэннем аб перадачы Дома літаратара Упраўленню справамі прэзідэнта.

*БелаПАН*

## Прэзідэнт – удалы камбайнёр

**На мінулым тыдні ў вёсцы Насовічы Добрушскага раёна Гомельскай вобласці быў вялікі пярэпалах: побач з вёскай прызямліўся прэзідэнцкі верталёт.**

Рыгоравіч вырашыў паглядзець, як вядзецца ўборка ячменю ў племзаводзе «Насовічы». Галоўны механізатар краіны сам зрабіў некалькі кругоў па ячменным полі на новым камбайне «Палессе-Ротар», надаваў шмат каштоўных парад мясцовым механізатарам і галоўнаму канструктару «Гомсельмаша». Правёўшы нараду з раённымі вертыкальшчыкамі і старшынямі калгасаў, Лукашэнка сеў у верталёт і знік у паўночным напрамку.

**Лявон ВАЛЕВАХА**

*У сераду-чацвер беларускія зенітчыкі выпрабоўвалі сябе і сваю зброю ў астраханскіх стэпах*

## Нашым хлопцам далі пастраляць у Расіі

Дзве беларускія брыгады стралялі на далёкія адлегласці. У Беларусі няма месцаў, дзе можна праводзіць такія вучэнні: цяжка пацэліць так далёка, не «закрануўшы» каго-небудзь снарадам. Ва ўсякім разе, рабіць такія стрэльбы у нашай краіне небяспечна,таму іх і праводзілі ў Расіі, на палігоне «Ашулук» у Астраханскай вобласці, паведамілі ў Міністэрстве абароны.

Ацэньваць усё гэта паляцеў сам міністр абароны Беларусі генерал-палкоўнік А.Чумакоў.

Стралялі па радыёкіруемых мадэлях — імітатарах сапраўдных паветраных адзінак. Яны таксама ствараюць розныя памехі і хаваюцца, калі іх пеленгуюць зенітчыкі. Самае складанае, патлумачылі ў прэс-цэнтры міністэрства абароны, — знайсці цэль, а потым застаецца толькі націснуць кнопку.

Канчатковыя вынікі манеўраў будуць падведзеныя пазней. Але можна быць ўпэўненым, што беларускія зенітчыкі траплялі ў самыя «яблычкі». Па-першае, нашыя хлопцы — несумненна прафесіяналы, а па-другое — трэба ж пацвердзіць, што лепшага ахоўніка заходняй мяжы проста не можа быць. А то раптам ізноў — шпіёнскі паветраны шар?

**Аляксандр ШКУЦЬКО**

## Навіны беларуска-амерыканскай археалогіі

**Ужо трэці год вядзе археалагічныя даследаванні ў Петрыкаўскім раёне Гомельскай вобласці Беларуска-амерыканская экспедыцыя пад кіраўніцтвам старшага навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Валянціны Вяргей пры дапамозе прафесара Пенсільванскага універсітэта ЗША Уолта Трымера.**

Раскопкі вядуцца ва ўрочышчы Дворышча — каля возера Хадное. Знойдзены і даследуецца буйнейшы раннеславянскі комплекс пражскай культуры, якая адносіцца да V—VII ст. н.э. Ужо знойдзена шмат цікавых рэчаў, у тым ліку і пяць металургічных печаў, а таксама прыстасаванні для выплаўкі каляровых металаў. Адначасова вяліся раскопкі і ў Снядзіне. Тут знойдзеныя многія рэчы, характэрныя для гарадской культуры: шкляныя бранзалеты, сланцавыя прасечкі і свінцовы вершнік баявой булавы.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Выхаваўчыя экскурсіі за дрот

**Каля двух дзесяткаў падлеткаў пабывалі на экскурсіі ў Бабруйскай выпраўленчай калоніі.**

Падлеткаў, якія стаяць у Бабруйску на ўліку ў інспецыі па справажнепаўналетніх, спецыяльна звазілі ў калонію на азнаямленне.

Там хлопцы пабачылі, што іх можа чакаць у самым бліжэйшым будучым, калі яны не возьмуцца за розум. У інспекцыі спадзяюцца, што цяпер некаторыя з экскурсантаў сапраўды зменяць сваe паводзіны ў лепшы бок.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Аруць па курганах

**У Хойніцкім раёне Гомельскай вобласці налічваецца каля 25 археалагічных помнікаў часоў каменнага веку, якія месцяцца на надпойменных тэрасах рэчак Прыпяць і Віць.**

Усе помнікі знаходзяцца пад аховай дзяржавы. Тым не менш, перажыўшы тысячагоддзі, яны могуць знікнуць сёння, напрыканцы XX стагоддзя. Прыкладам, вялося ворыва зямель каля Храпкава, дзе знаходзіцца адзіны ў раёне курганны помнік з адзінаццацю насыпамі. Парушаныя гарадзішчы каля вёсак Клівы і Вялікі Бор. На месцы стаянкі першабытнага чалавека каля вёскі Барысаўшчына ўтвораны кар'ер і звалка смецця. Праўда, тое-сёе можа памяняцца да 2000 года, калі, згодна з планам развіцця Хойніцкага краязнаўчага музею, паўсюль павінны быць усталяваныя памятныя знакі.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Сначала деньги – автомобили потом

**Самым «больным местом» в новом порядке таможенного оформления груза стала перевозка легковых автомобилей.**

Представители таможенных органов сообщили, что 4 августа новые правила в отношении автомобилей «не пошли», то есть документ есть, но не действует. Возникла масса вопросов и проблем, связанных с оформлением автотранспорта.

Согласно приказу № 192-ОД таможенные органы при ввозе автотранспортного средства должны требовать уплаты гарантийного залога. При пересечении границы за автомобиль старше 3 лет необходимо внести залог в размере 0,3 ЭКЮ за 1 куб.см объема двигателя. Автомобиль до 3-х лет требует большей суммы залога — 1 ЭКЮ за 1 куб.см двигателя (при ввозе для личного пользования). Для автомобилей, которые ввозятся с целью перепродажи, залог составит 5 ЭКЮ за 1 куб. см.

При этом под льготную ставку 0,3 ЭКЮ за 1 куб.см. попадает только 1 автомобиль в течение календарного года, причем в течение двух лет его нельзя будет продать.

Как сообщили таможенники, сумма не привязана к марке автомобиля. Кроме того, с 18 августа (когда будет совершена повторная попытка ввести новый порядок) планируется уменьшить до 0,3 ЭКЮ за 1 куб.см и ставку на автомобили моложе 3-х лет.

При выезде из Беларуси для приобретения автотранспортного средства гражданин должен внести сумму залога на границе исходя из планируемого объема двигателя. Если уплаченная сумма гарантии превышает необходимую сумму, то разница возвращается, причем в тех же денежных единицах, в которых была произведена оплата. Это значит, что если вы переплатили, предположим, 50 долларов, то именнно 50 долларов и должны получить.

Можно вносить гарантийный залог и при въезде с купленным автомобилем. Затем при «растаможке» по месту жительства сумма гарантий учитывается или возвращается. Предусмотрен и вариант полного растаможивания автомобиля на границе.

Все эти изменения, по утверждению представителей таможенных органов, введены с той целью, чтобы граждане не могли уклониться от уплаты пошлины. Сейчас же значительная часть ввозимого в Беларусь автотранспорта, по словам таможенников, вывозится в Россию либо распродается по запчастям. В результате в казну деньги не поступают.

Идея неплохая, однако есть ряд недоработок. Что касается граждан Беларуси, то ситуация более-менее ясная. Но проблемы возникают у граждан России, Украины, Казахстана и т.д.

В новой редакции положения о порядке оформления личного имущества, перемещаемого через таможенную границу, речь идет лишь об оформлении автомобиля как личного имущества. Не определен статус иных транспортных средств — микрогрузовиков, микроавтобусов (правда, мопеды и мотоциклы относятся к личному имуществу). Одним словом, необходим еще целый ряд дополнительных разъяснительных документов. Остается надеяться, что к 18 августа, когда вводится новый (уже уточненный) порядок, всё прояснится.

Ситуация на рынке импортных автомобилей у нас примерно следующая. Ввозом машин занимаются в основном профи-перегонщики. Они не оплачивают таможенные пошлины, а просто продают привезенные машины нерастаможенными. Теперь, вероятно, им придется искать пути получения «левых» квитанций об оплате залога на таможенной границе, чтобы ввезти и продать машину в Беларуси. Учитывая, что «левые» документы будут что-то стоить, да и за риск нужно платить, машины подорожают на нашем рынке, по мнению экспертов, на 500—1.000 долларов США. Кроме того, дополнительный толчок получит коррупция, и до этого широко распространенная на таможнях.

**Вероника СТРОЕВА**

# Партыя вечных няўдачнікаў

**12 жніўня ў памяшканні Цэнтральнага дома афіцэраў у Мінску адбыўся аб'яднальны з'езд Беларускага грамадскага аб'яднання пацярпелых укладчыкаў і Беларускай партыі «За сацыяльную справядлівасць». На імпрэзу былі запрошаныя 1.100 дэлегатаў з усіх канцоў краіны, у зале не хапала месцаў.**

Узначаліў новую фармацыю — Беларускую партыю «За сацыяльную справядлівасць» — слынны Ігар Клюеў, генеральны дырэктар фірмы «Белнацыяналсервіс». Партыя ставіць гучную мэту — стварэнне эканамічных умоў для кампенсацыі грамадзянам РБ тых грашовых стратаў, што яны панеслі пачынаючы з 1991 г. і па сённяшні дзень. Партыя збіраецца дапамагчы ахвярам фінансавых пірамід, а таксама былым кліентам Дзяржстраха і нават Ашчаднага банка СССР вярнуць свае грошы з улікам індэксацыі.

Ніводная постсавецкая дзяржава яшчэ не здолела гэтага зрабіць, але І.Клюеў не траціць аптымізму і прапаноўвае самыя смелыя захады. Вось ягоная ідэя: дзяржава мае вялікую колькасць гэтак званых «нелiквідаў» — тавараў, што ніхто не хоча набыць і якія аселі на складах. Клюеў прапануе правесці іх агульную інвентарызацыю — а потым прапанаваць «неліквіды» пацярпелым — трэба разумець, перш за ўсё членам партыі. Людзі, па сцверджанні І.Клюева, з радасцю возьмуць тое, што ім патрэбна, а дзяржава і пазбавіцца непатрэбных тавараў, і споўніць абавязак перад сваімі грамадзянамі.

Клюеў упарта настойвае і яшчэ на адной «прагрэсіўнай» меры — вызваліць фірму «Белнацыяналсервіс» ад падаткаў і мытных пошлін. Па словах І.Клюева, зэканомленыя грошы поўнасцю пойдуць на разлік з пацярпелымі ўкладчыкамі. Іначай кажучы, Клюеў хоча дапамагчы пэўнай групе за кошт усіх астатніх.

Беларуская партыя «За сацыяльную справядлівасць», як сцвярджае І.Клюеў, адмаўляецца ад палітычных патрабаванняў, а сам ён бачыць сябе на чале найвялікшай палітычнай партыі Беларусі.

Старыя людзі з панурымі тварамі, што складалі амаль што ўсю аўдыторыю Клюева, з павагай слухалі свайго «вызваліцеля». Іх можна зразумець: яны страцілі грошы, канчаткова расчараваліся ва ўсім — і раптам з'яўляецца рыцар на белым «вольва» і абяцае перамагчы ўсіх злодзеяў. Але калі яны даведаліся ад «вызваліцеля» пра тое, што за членства ў партыі трэба будзе плаціць штоквартальна, а на атрыманне кампенсацый могуць спатрэбіцца дзесяцігоддзі (!), энтузіязм іхні моцна знізіўся. І яны зноў адчулі сябе вечнымі няўдачнікамі.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Праўду казала свякроў

Добры дзень, шаноўная СВАБОДА!

Слухаю я па радыё пра астранамічную суму запазычанасці Беларусі за энерганосьбіты, пра санкцыі, якія то ўводзяцца, то адмяняюцца, і ўспамінаецца мне адна дужа павучальная гісторыя.

Неяк прыехала я да сваёй свекрыві, светлай памяці Вулляны Маркаўны. Сустрэла яна мяне дужа ўзбуджаная і кажа: «Чуеш, у Ёнькі (суседкі) бяседа як гудзе?» На маё нямое пытанне тлумачыць: «А яна трэці месяц як пазычыла 10 рублёў — і не аддае. У даўгах, як у шаўках, а бяседы правіць». (Дадам, што пенсія ў маёй свекрыві была 35 руб.) Я толькі параіла болей не пазычаць ёй грошай. Свякроў мне патлумачыла, што гэтая Ёнька — проста нейкі д'ябал. Калі ёй нешта трэба, яна не адступіцца, будзе казаць: вер, павер, беражы Бог, храні Гасподзь, паддзяржы, нікога ў мяне няма, адзінокая і г.д. Гэта толькі словы — ключы, а яны такім пустаслоўем абкручаныя, і кожны раз новым, што паверыш... Адным словам, — цыганскае семя, сатана з імем Бога на вуснах. Ёнька тая такі пражыла на дурніцу, за чужы кошт.

А я не магла глядзець па тэлевізары святочнае шоў, не магу глядзець фільмы пра 4-дзённае святкаванне ды парады. Усё карціць спытацца: колькі гэта каштуе, а колькі дамоў без дахаў і колькі дзетак недаядаюць? Дый маё пенсійнае гаротнае жыццё становіцца невыносным. Праўду казала мая свякроў: «Гулячы нож ні на што не гож».

**Л.СУДЗІЛОЎСКАЯ,**
*ветэран працы, г.Гомель*

## Соладка — але брыдка!

Шаноўныя сябры!

Нядаўна з'явіўся Указ «Аб стварэнні нацыянальнага цэнтра законапраектнай дзейнасці пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь». Мала таго, што Беларускі інстытут дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства цяпер будзе падпарадкоўвацца непасрэдна адміністрацыі прэзідэнта — дык яшчэ і цэнтр.

Як бачна, А.Лукашэнка грунтоўна перастрахоўваецца — відаць, баіцца і хоча мець упэўненасць на 150%. Кішэннага «парламента» ўжо мала.

Цяпер законы будуць цалкам «адпавядаць» на стадыі праектаў.

Перафразуючы аднаго знакамітага гумарыста, можна сказаць: калі ў праекце закона ў лукашэнкаўскім цэнтры і інстытуце скажуць «рахат», то «парламент» з пачуццём маральнага задавальнення адкажа «лукум». Соладка — аж брыдка.

**Алесь ДЗЕРГАЧОЎ,**
*г.Смаргонь*

# За три года друзей у нас больше не стало

## *Нынешняя власть разрушила уважение к Беларуси и белорусам*

В Беларуси положение дел можно охарактеризовать словами песни из известного кинофильма «Вроде не бездельники и могли бы жить...» Но разве кто-нибудь сегодня решится заявить, что за истекшие три года у нашего государства стало больше политических партнеров? Наоборот, от президента чаще слышны заявления противоположного толка: не просто о росте числа врагов, а уже о том, что они плотным кольцом окружают нашу бедную страну как на западе, так и на востоке, юге и севере. Но мандат на власть Лукашенко в 1994 г. давали вовсе не для умножения недругов, а для установления дружественных связей. Однако не оправдалось. Ведь одно дело — непрерывно извергать страшные проклятия и обвинительные речи по адресу мнимых противников, а другое — вести трудную и кропотливую работу по консолидации нации, завоеванию доверия внутри страны и у мирового сообщества, т.е. садиться за такие нелюбимые президентом «круглые и квадратные столы».

Всё уважение к Беларуси, приобретенное в былые времена ее народом, нынешний режим бездарно свел на нет. Выполняя указание пробить брешь в кольце политической международной изоляции, И.Антонович и команда с отчаянием обреченных отрабатывают свой хлеб в попытках убедить, что демократии у нас поболее даже, чем в западных странах. Это сизифов труд, дело столь же безнадежное, как и мытьем превратить черного кобеля в белого.

А между тем причина всего безобразия в Беларуси проста и очевидна —власть ни во что не ставит доверие к самой себе. В сущности, нынешним правителям безразлично, что о них думают внутри и вовне, поэтому конституционное клятвопреступление у нас — обыденность. Похоже, что власть не осознает себя государством, а скорее шайкой временщиков, и не верит никому, даже себе. Но почему тогда ей должны верить другие? Как известно, народная мудрость гласит: кто врет — тот и крадет, а с ворами никто не желает иметь дел. Поэтому капиталы внешних инвесторов Беларусь обходят стороной.

Неужели белорусский народ не заслужил лучшей доли, чем принести огромную жертву на алтарь победы над фашистской чумой не для того, чтобы жить свободно, а для того, чтобы на его земле родился, вырос и получил высшие полномочия человек, восхваляющий гитлеровские порядки?

Повторенная за три года тысячи раз с маниакальным упорством мысль о кознях и происках явных и тайных врагов нагнетает атмосферу тотальной подозрительности и массового психоза. Посмотришь телевизор — и представляешь, что вредители повсюду. Эти несметные полчища вурдалаков, рои неведомых насекомых-мутантов, «вшивых блох» ползут — и нет от них спасения. Вся эта «вскормленная за океаном» нечисть, жуткие твари лезут на президента, терзают, словно ненасытные паразиты, славянские народы. Но не угнаться за мыслью интегратора — вот она в своем стремительном полете уже в Краснодарском крае рисует красочные пророчества, что мол, коварный Запад оказался накануне сырьевого краха и вот-вот экономика там рухнет. Тогда, дескать, славяне, возглавляемые своим единителем, со своим сырьем выступят и продиктуют свою волю миру. Грандиозные масштабы подобных замыслов требуют не поиска друзей — зачем с ними делиться? — а только временных попутчиков-союзников, которых потом можно будет отбросить, объявив предателями, врагами, изменщиками. Не впервой ведь.

В будущем историки и политологи будут говорить о нынешнем периоде в нашей истории как о тоталитаризме, волюнтаризме, безудержной демагогии, времени упущенных возможностей и растранжиривания национального богатства, разрыве дружественных взаимовыгодных связей и т.п. Но это потом. А жить хочется сейчас.

Кто не знает, что ценность обладания чем-либо особенно остро воспринимается тогда, когда тебя пытаются этого лишить? Вот и у нас, похоже, к счастью обладания свободой народ Беларуси движется в два этапа, следуя известному анекдоту. На вопрос, как стать счастливым, один старый еврей другому вначале посоветовал пустить козла в дом, а вторым советом было — избавиться от него. Так что осталось немного — всего половина.

**Ю.САМОТЕВИЧ,**
*г.Могилев*

## Абыякавасць чыноўнікаў забівае нацыю горш за радыяцыю

Медыкі налічваюць сёння больш за 1.000 захворванняў на тысячу дзяцей. Кожнае пятае дзіця — хранічна хворае. Высокі ў нашай краіне і паказчык дзіцячай смяротнасці: чытала, што за апошнія пяць гадоў на Беларусі памерла прыкладна столькі юных беларусаў, колькі жыхароў налічвае Барысаў альбо Ліда. Фактычна з карты Беларусі знік цэлы горад...

Кажуць, здароўе нацыі — у здаровым целе жанчыны. Але ж адкуль быць гэтаму здароўю? Нашыя цяжарныя жанчыны харчуюцца гэтаксама як усе мы — ядуць у асноўным бульбу ды сала. Астатняе — як Бог дасць.

А што прапануецца дзецям да 5-гадовага ўзросту? Кіньма вокам на паліцы крамаў. Апошнім часам акрамя даўно вядомых «Малюткі» ды «Малыша» з'явілася што-кольвечы і заморскага, але ж колькі яно каштуе! Дый усё роўна патрэбнага набору харчоў для дзяцей да 5 гадоў днём з агнём не знойдзеш, нават і грошы не дапамогуць. Пра гэта ніхто не дбае.

І цяжарныя жанчыны, і дзеці ў большасці харчуюцца з «агульнага стала», купляючы ў крамах мяса, атручанае хімічнымі дабаўкамі. Малако і малочныя прадукты таксама нясуць, бадай, больш шкоды, чым карысці — 80% кароў на Беларусі хварэюць на лейкоз ды туберкулёз...

У Японіі кожны школьнік атрымлівае бясплатна на снеданне па два перапёлчыны яйкі — у адрозненне ад курыных, яны не выклікаюць у дзетак алергіі. Клапатлівыя японцы ўлічылі і тое, што жаўток курынага яйка назапашвае радыяцыю.

Ніхто не дбае і пра тое, што інкубатарскіх курэй «для хуткага мяса» падкормліваюць антыбіётыкамі ды сінтэтычнымі дабаўкамі, а гэта ўплывае на шчытападобную залозу чалавека, выклікае алергіі. Абыякавасць і тупасць чыноўнікаў, якія не думаюць аб чыстым харчаванні, забівае нацыю горш за радыяцыю.

**Арына ЗАЯЦ,**
*г.Мінск*

### РАДКІ З ЛІСТОЎ

Я постоянный читатель вашей газеты, хотя, конечно, не все в ней напечатанное мне нравится. Но это как в жару пить ледяную воду: утоляет жажду, хотя и зубы ломит. Спасибо.

С уважением

**В.Л,**
**русский, г.Борисов**

Где бы ни выступал Григорьевич, перед какой бы аудиторией ни красовался — всегда в его речах красной нитью проходит мелодия врагов. Враги — это все государства Запада, США, правительство России, которое провалило все его договоренности с Борисом Николаевичем и т.д. Как бы не получилось, словно в старой советской песне: «Враги сожгли родную хату». На Карла Маркса, 38.

**К.ПЛИГАВКА,**
*ветеран ВОВ, г.Докшицы*

Гісторыя ведае два тыпы інтэграцыі краін і народаў: еўрапейскую і рускую. Калі руская нацыя мае права на сваю мову і дзяржаўнасць, то мы, беларусы, — удвайне:

— як народ, які не мае імперскіх амбіцый і не імкнецца да акупацыі і падпарадкавання іншых краін і народаў;

— як народ, які выступае за правы кожнай карэннай нацыі на самавызначэнне і стварэнне сваёй дзяржавы;

— як народ, які жыве за кошт сваёй працы, не рабуючы іншых.

**Пётр КАСЦЮКОВІЧ,**
*дацэнт БПА*



### КАДРЫ

## Добраму гаспадару нішто не лішняе



# Коммунисты вышли на тропу перемен

Вячеслав ОРГИШ,
доктор философских наук

Лукашенко, кажется, удалось то, чего не сделали ни перестройка с гласностью, ни последовавшие за ними либерально-демократические ветры. Своей неукротимой волей к неограниченной власти и бескомпромиссной борьбой за нее президент сумел нарушить догматический сон старейшей политической силы страны — коммунистической партии.



### Компромисс

В сложившейся накануне референдума 24 ноября обстановке политического кризиса, стержнем которого стало намерение главы исполнительной власти заполучить неограниченные полномочия, позиция части коммунистов —депутатов Верховного Совета XIII созыва — в каком-то смысле оказалась сенсационной. Садясь за круглый стол с правой оппозицией, они вольно или невольно должны были задуматься над идейными принципами своего движения.

Компартия Беларуси, воспитанная в традициях пролетарской нетерпимости, категорически не приемлющая национальные ценности, казалась образцовой блюстительницей идеологии коммунистического интернационализма. Выступление коммунистических лидеров против президентского волюнтаризма — знаковое событие, показывающее, что в среде коммунистической элиты зреют новые настроения, зарождаются тенденции, которые со временем, возможно, повернут коммунистическую партию в сторону национальной партикулярночсти и социал-демократизма.

Возможно, белорусские коммунисты сумеют освоить модель общественного развития, этические и социальные принципы которой не чужды марксизму и одновременно созвучны тем, что поддерживают историческую динамику Запада, проистекают из его религиозных и либеральных предпочтений. Возможно, коммунисты включатся в процесс активного восстановления его национального облика и обретения исторической судьбы белорусского народа.

Но прежде чем подобная метаморфоза станет реальностью, белорусским коммунистам придется пройти путь серьезной эволюции. На этом пути неизбежно размежевание с ультраконсервативными, не готовыми к новой исторической ситуации партийными кадрами. Собственно, такое размежевание уже началось. В стране прошла кампания протеста партийных «низов» против подписания лидерами ПКБ Заявления круглого стола от 28 августа 1996 г., а также выдвижения альтернативного президентскому проекта конституции.

### Раздел

Внутри партии открылось наличие двух взаимоисключающих подходов к принципиальным вопросам государственного устройства, на поверхность всплыли до поры скрываемые концептуальные расхождения. На руководителей компартии Калякина, Новикова и их соратников посыпались обвинения в ревизионизме, отступничестве, предательстве партийных интересов, смыкании с идейными врагами и т.п.

В сущности — это кризис основ партии, свидетельствующий, что ее наиболее динамичные, способные к открытому диалогу со временем элементы склонны проявлять критическое отношение к марксизму, усматривать в нем социальную и политическую архаичность.

Раскол компартии не заставил себядолго ждать. 2 ноября 1996 года в Минске состоялось учредительное собрание пропрезидентской «Коммунистической партии Беларуси», в состав которой вошли покинувшие партию Калякина—Новикова непримиримые коммунистические ортодоксы.

В сущности, реалистически мыслящие коммунисты еще раньше поняли, что централизованный политический строй советского типа потерял способность к эффективному развитию. Его идеологические установки были продиктованы требованиями совершенно иного исторического порядка, поэтому ортодоксальная непоколебимость части коммунистов на деле есть вредный для общества консерватизм, неспособность быстро и адекватно реагировать на вызовы меняющейся жизни. Чтобы претендовать на историческую перспективу, компартии (ПКБ) нужны реформы, способные выработать более рациональное видение будущего, чем то, что предлагает ее официальная программа. Рецепты и механизмы стимулирования, заимствованные из советского прошлого, уже не могут мобилизовать энергию на ответственные и решительные действия.

Нынешняя идейная платформа ПКБ не гарантирует свободу от идеологического принуждения, не ведет к последовательному и полному изживанию в Беларуси экономических и социальных условий существования догматически-авторитарной политической системы. Для того, чтобы стать сопричастной формированию в стране современного общества европейского типа, компартии придется произвести ревизию исходных форм и принципов сверхцентрализованной политической организации, которая в свое время создавалась ради быстрого развития производительных сил и форсированной индустриализации, а ныне безнадежно устарела.

В случае движения по пути самообновления ПКБ предстоит критически отнестись к концепции марксистского универсализма. Акцент на том, что современный этап истории характеризуется нарастанием идеологического противоборства между социализмом и капитализмом и данное деление является ключом к осмыслению происходящих событий — неуместен в арсенале обновленной компартии. Ее политическая судьба и облик будут зависеть от того, в какой степени она сумеет усвоить западные левые традиции и преодолеть жесткие ленинско-сталинские принципы.

### По-новому

Можно с уверенностью прогнозировать: идейные позиции коммунистов из обновленной ПКБ будут более неопределенны и восприимчивы к новациям, менее радикальны и более националистичны. Их активность сосредоточится на создании сильной и эффективной экономики, проведении социальных реформ и достижении политической устойчивости. При этом для них будут неприемлемы безжалостные насильственные методы и остроконфликтная борьба за власть. Идейное кредо новых коммунистов будет обращено не на революционное строительство будущего, а на критическую оппозицию настоящему, на борьбу против социальной несправедливости.

Партия, объединяющая таких коммунистов, не захочет претендовать на то, чтобы быть коммунистической или социал-демократической, откажется от жесткого идеологического прессинга и не допустит диктата партийных аппаратчиков. Она станет просто левой партией, ориентированной исключительно на реализацию целей национальной модернизации на основе реформистского понимания общественной жизни, доставшегося от западной социалистической традиции. В политической программе такой партии будет место признанию конституционных процедур, многопартийных выборов, но не останется концепции «диктатуры пролетариата». Малая роль достанется классической догме о противопоставленности государственной и частной форм собственности, вполне определенную поддержку получит стремление к расширению частного сектора.

### Завтра

Эволюция ПКБ в описанном выше смысле — задание на завтра. Сегодня, признавая важность сохранения конституционных начал в стране, она идет на компромисс с идейно чуждыми, но политически активными силами общества, умеряет свою ортодоксальность, демонстрирует приверженность Конституции и закону.

Противодействие стремлению главы государства закрепить абсолютную личную власть с помощью плебисцита, осуждение нарушений демократических правил игры и конституционных норм —ее первые шаги в сторону обновления.



КСТАТИ

# Встать над схваткой мулов и воинов

Выступая во вторник на заседании Совмина, Лукашенко похвалил собрание за положительные тенденции, проявившие себя в первом полугодии, и выразил неудовольствие по поводу тенденций отрицательных. Вина возложена на правительство, правоохранительные и иные бюрократические структуры. От всех президент потребовал повышения ответственности.

Традиционная манера, в которой проходят такие заседания, отражает иллюзию советских времен, что государство может поставить под контроль «самостоятельных» производителей или превратить чиновников в бескорыстных служителей общего дела. Уже во времена нэпа, когда в экономику допустили частный элемент, сохранив «главные высоты за государством», проблему контроля пришлось решать путем физического уничтожения элемента-раздражителя.

Отстрел и экспроприация «частника» сопутствовали советской власти во все ее времена, но столь же постоянно он возрождался — или при ее попустительстве, или с ее помощью. Как и всякая власть, эта ничего не производила, но, подмяв под себя экономику, она и саму власть не могла бы удержать, если бы не культивировала различные формы частной собственности.

Выглядело это как делегирование отдельным лицам и организациям прав и полномочий, то есть как повышение их хозяйственной самостоятельности. После того как государственная монополия практически разрушила экономику к такому методу пришел Ленин, назвав данную форму новой регламентации фискальных отношений *хозрасчетом*. Но такие отношения существовали еще в дохристианской истории.

Необходимость развивать частные формы собственности возникла сразу же после ее полного уничтожения (иллюстрация — нэп), а кустарные уклады в промышленности и коммунальном хозяйстве существовали длительное время, в сельском хозяйстве — на всем протяжении советской истории. Благодаря им народ смог выжить и, по явному недоразумению, даже благодарил власть.

Надо отметить и другую особенность: в СССР развивать частную собственность было столь же необходимо, сколь и неудобно. Частную собственность и возрождали, и уничтожали во имя общественной. Эту иллюзию многие разделяют и до сих пор, хотя такая ситуация уже была — в эпоху эллинизма, когда в Египте правила династия Птолемеев. Они, приоткрыв лазейку для «частных фирм», затем вынужденно создавали бюрократический аппарат, громоздя один контрольный орган над другим, дробили контрольные функции между ведомствами, учреждали главный контрольный орган — но всякий раз убеждались в их неэффективности.

Вот вам и «прежде всего учет». А все потому, что получающие из казны содержание чиновники никогда не смогут проконтролировать обладающих широкими возможностями влиятельных частных, самостоятельных производителей: те в определенный момент получают возможность скупить весь аппарат «на корню», обращая контролеров государственной монополии в собственных лоббистов при центральной власти. Это неизбежно хотя бы потому, что экономические формы деятельности являются эволюционно более высокими, более прогрессивными по сравнению с организационными и, как показывает история, неизменно торжествуют над ними.

Доказательство — не только трехсотлетняя история правления Птолемеев в Египте, который после них два тысячелетия не существовал в качестве самостоятельного государства. В этом убеждает и опыт СССР.

Впрочем, македоняне Птолемеи (по некоторым сведениям, основатель династии был единокровным братом Александра Македонского) могли бы проявить большее внимание к опыту отца Александра — Филиппа II, при котором Македония впервые возвысилась над соседями. И они бы поняли, что рыночная экономика и деспотия несовместимы. Филипп, например, применял не только грубую силу, но и подкуп: мул, нагруженный золотом, возьмет любую крепость.

Но вернемся в современную нам Беларусь. Глава государства, о чем он не устает повторять, борется с «мулами» и корыстолюбивыми воинами. Судя по всему, он просто не понимает, что и те и другие не могут друг без друга, пока существуют крепости. А что же делать простому крепостному люду, который все норовят превратить во вьючное животное, но грузят соломой, а не золотом? Лучше не верить ни тому, ни другому, ни третьему. Но скептицизм не должен превращаться в пофигизм. Надо верить самому себе. В той схеме, которую придумала власть, нам места нет. Но и власть нельзя пускать на место, принадлежащее нам. Мое — это мое. А власть должна быть сбоку, но не над.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

# Новы Крыж Еўфрасінні

**Адзін з самых каштоўных скарбаў нашай зямлі, знакаміты крыж Еўфрасінні Полацкай, зроблены полацкім ювелірам Лазарам Богшам у 1161 годзе, як вядома, быў страчаны падчас Другой сусветнай вайны. Пошукі скарба пакуль вынікаў не далі. А тым часам, як ужо СВАБОДА паведамляла, у Брэсце ствараецца сучасная копія Крыжа.**

Крыж шасціканцовы, з драўлянай асновай. На пярэдняй і адваротнай паверхнях было па 11 залатых пласцін, аздобленых перагародчатымі каляровымі эмалямі з выявамі святых, арнаментальнымі кампазіцыямі, каштоўнымі камянямі. На баках крыжа — надпіс, у якім паведамляецца гісторыя стварэння рэліквіі, дата, імя майстра.

Фактычна ідэя аднаўлення нацыянальнай святыні аформілася на Першым з'ездзе беларусаў свету, які праходзіў у снежні 1992 г. З'езд аднагалосна прыняў рашэнне пачаць працу па рэканструкцыі крыжа. Тады Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» прапанавала ўзяцца за працу брэсцкаму мастаку-ювеліру Міколу Кузьмічу. А дзеля вырашэння фінансавых пытанняў пры «Бацькаўшчыне» была створаная рабочая група, у склад якой увайшлі прадпрымальнікі Анатоль Сілівончык, Мікалай Сулкоўскі, Барыс Стук.

«Бацькаўшчына» звярнулася да Беларускай праваслаўнай царквы з просьбай аб духоўным спрыянні аднаўленню Крыжа. Мітрапаліт Філарэт даў блаславенне. Паралельна з асноўнай працай рэжысёр Віктар Шаялевіч пачаў здымаць хранікальна-дакументальны фільм аб рэканструкцыі Крыжа, а пісьменнік Уладзімір Арлоў — пісаць гісторыка-дакументальную кнігу аб гісторыі Крыжа.

Аднаўленне крыжа — сапраўды супольная справа беларусаў. У першыя ж дні працы прадпрымальнік Мікалай Сулкоўскі з Новасібірска перадаў на аднаўленне крыжа кілаграм срэбра. Анатоль Сілівончык і іншыя прадпрымальнікі беларускай дыяспары ўклалі значныя сумы на набыццё матэрыялаў, спецыяльнага абсталявання, слайдаў, іншых навуковых матэрыялаў.

Мастак Мікола Кузьміч адказна працаваў над аднаўленнем Крыжа. Работа няпростая, і ў сакавіку 1994 г. была створана навукова-грамадская Рада, каб аказваць мастаку навукова-метадычную дапамогу, а таксама стварыць канчатковы эскіз і апісанне Крыжа. Навуковым кіраўніком Рады стаў доктар гістарычных навук сп.Штыхаў.

*«Аднак тады ніхто не думаў, што давядзецца патраціць на гэта больш за 4 гады, каб давесці справу да канца»*, — кажа старшыня Рады ЗБС «Бацькаўшчына» спн.Сурмач. Трэба сказаць, што калі ў «Бацькаўшчыны» былі цяжкасці з фінансамі, то пэўную падтрымку аказаў Мітрапаліт Філарэт. З дапамогай царквы мастак пабываў у Ерусаліме.

Гэты ўздзвіжанскі крыж мяркуюць скончыць да свята Уздзвіжання. *«Гэта не толькі мастацкае паўтарэнне крыжа святой Еўфрасінні, але і духоўная і рэлігійная рэч»*, — гаворыць мастак. Па словах Г.Сурмач, *«гэта пачатак шляху да духоўнага адраджэння Беларусі, вяртанне да Бога. Далейшы шлях нашага народа павінен быць з Крыжам»*.

**Людміла ЧАПРОЎСКАЯ**

# Мастацтва выжывання

**У будзённай мітусні кожны па-свойму імкнецца ўцалець, замацавацца, выжыць. А мастак Генадзь Гурвіч назірае за людзьмі і фіксуе спосабы выжывання ў сваіх малюнках.**

З гэтымі малюнкамі Г.Гурвіча можна пазнаёміцца на выставе «Мастацтва выжывання», якая адкрылася ў фае тэатра «Вольная сцэна» (вул.Крапоткіна, 41). Арганізавала выставу вандроўная галерэя «Брама». У «Брамы», якая не мае ўласнага памяшкання, але мае якую-ніякую вядомасць у Мінску і ваколіцах, свае спосабы выжыць: гэтая галерэя супрацоўнічае з абмежаваным колам мастакоў, і Генадзь Гурвіч — адзін з тых, чые творчыя пошукі «Брама» ўзялася пастаянна прадстаўляць публіцы.

Летась Г.Гурвіч дэманстраваў прыхільнасць да філасофіі Усходу, ягоныя творы ў большасці прадстаўлялі сабою разнастайныя мадыфікацыі аднаго і таго ж сімвала — мандалы (гэта старажытнабудыйскі знак Сусвету). Некалькі такіх работ ён паказвае і сёлета, але пераважаюць на выставе малюнкі новых цыклаў — «Мастацтва выжывання» і «301-е пакаленне» (маюцца на ўвазе нашыя сучаснікі, мастак адлічвае пакаленні ад Адама і Евы ў адпаведнасці з Бібліяй).

Некалькі дзесяткаў невялікіх акварэляў даюць своеасаблівы зрэз жыцця, паказваюць дробныя людскія заганы і прыватныя захапленні. Генадзь Гурвіч здольны абагульняць свае назіранні, ён партрэтуе не канкрэтных людзей, а хутчэй такія іхнія якасці, што ўласцівыя многім. Мастак абраў сціплую, але займальную форму, і публіка цікаўна і ўважліва разглядае ягоныя малюнкі. Выстава дае адчуванне гутаркі з мастаком, які мае неацэнныя якасці цікавага суразмоўцы — дасціпнасць, арыгінальны погляд на жыццё і мяккую іронію.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**



*Г.Гурвіч. Крокі ўзбоч. З нізкі «Мастацтва выжывання».*

**ІНТЭРВ'Ю**

*Генрых ДАЛІДОВІЧ:*

# Шукай сябе там, дзе ты моцны!

Наш суразмоўца Генрых Далідовіч — аўтар амаль 15 кніг апавяданняў, аповесцяў і раманаў. За раман «Гаспадар-камень» з аднайменнай трылогіі, прысвечанай гісторыі ўтварэння БНР і БССР, атрымаў літаратурную прэмію імя І.Мележа, за раман «Заходнікі» — дзяржаўную прэмію. Галоўны рэдактар часопіса «Маладосць», старшыня камісіі Саюза беларускіх пісьменнікаў па рабоце з маладымі літаратарамі. І нашая гутарка пачынаецца з літаратуры.

**— Спадар Генрых, бывае кажуць, што творцы жывуць у сваім часова-пpастoравым вымярэнні — не так, як усе людзі. Ці праўда гэта?**

— Не зусім. У хворых грамадствах тых літаратараў, якія ўслаўляюць рэжым, імператара, падзішаха ці дучэ, — аблашчваюць і асыпаюць золатам ды ордэнамі, а тых, хто верны праўдзе і сумленню — ссылаюць альбо знішчаюць. Аднак тое, што расстралялі, рэпрэсіравалі амаль 200 беларускіх літаратараў у 20—40-ыя гады, — і сёння не ўкладваецца ў галаве. А між тым той яшчэ нявыкаранены страх за сказанае ці напісанае слова дамоклавым мячом вісіць, і не толькі над нашым старэйшым пакаленнем. І не толькі сярод пісьменнікаў. Большасць люду не лічыць сябе вышэй за парабка. Як некалі адчайна заклікаў беларусаў Янка Купала — «людзьмі звацца», г.зн. узняцца як народ, як дзяржава, — так і цяпер трэба будзіць, тлумачыць, прасіць! Насуперак тым, хто хоча мець грамадзяніна не як асобу, а як паслухмяную рабочую сілу.

**— Значыць, і многім маладым, аўтарам той жа «Маладосці», замінае найперш невыводны страх?**

— Зазірнем крыху ў гісторыю «Маладосці». Яна з'явілася ў 1953 годзе, літаральна ў дні смерці Сталіна. Канечне, тагачасныя ўлады задумвалі яе як камсамольскі рупар неасталінізму. Але, трэба быць справядлівым, «Маладосць» арганізоўвалі таленавітыя людзі, якія цанілі перш за ўсё слова. Трэба, нарэшце, як след ацаніць першага маладосцеўскага рэдактара, пісьменніка А.Кулакоўскага. Цяпер многія прызабылі яго, а між тым гэта ён быў аўтарам аповесці «Дабрасельцы», дзе адным з першых сатырычна паказаў савецкую сістэму, што трымалася на грандыёзным падмане і грубай сіле. Празаіка грамілі як у Мінску, так і ў Маскве — а на Захадзе аповесць выйшла асобным выданнем. Урэшце аўтар-рэдактар быў зняты з пасады. Яго не расстралялі і не саслалі, як гэта масава рабілі ў 30-ыя, але пісьменнік зламаўся.

Ды «Маладосць» і з новым рэдактарам, Піменам Панчанкам, не адступілася: у часопісе з'явіліся найсмялейшая ва ўсёй тагачаснай савецкай літаратуры аповесць В.Быкава «Мёртвым не баліць», эсэ і аповесці Ул.Караткевіча... Дадам: асабіста я шчаслівы, што мог у свой час, яшчэ да 1991 года, падтрымаць публікацыі «Мужыцкай праўды» і «Лістоў з-пад шыбеніцы» К.Каліноўскага, «Старажытнай Беларусі» М.Ермаловіча, «Споведзі» Л.Геніюш. І ўсё гэта — «Маладосць».

**— Яшчэ не так даўно была славутая суполка «Тутэйшыя», яны разварушылі звычнае літаратурнае жыццё ў 80-х. А сённяшнія маладыя літаратары — хто яны?**

— Каб грунтоўна адказць на гэтае пытанне, трэба як мінімум пісаць кандыдацкую дысертацыю! Маладыя арыентуюцца на ўсё добрае. Адныя не цураюцца традыцыйнай плыні нашай літаратуры, іншым даспадобы мадэрновая манера. Ёсць што пачытаць, ёсць з чаго выбраць. Маладыя аўтары — людзі высокаадукаваныя, разбіраюцца як ва ўсходняй, так і ў заходняй культуры, у асноўным арыентуюцца на гуманістычныя і высокамастацкія ўзоры.

**— Як можна адчуць, Вы падтрымліваеце і эксперымент, і авангардызм?**

— Скажу так, як казалі і мне: пішы пра ўсё і як хочаш, абы было добра. Як літаратар лічу, што магчымасці звыклага для нашай літаратуры традыцыйнага рэалізму далёка яшчэ не вычарпаныя. Больш за тое — у многім, асабліва ў адлюстраванні нашай даўняй гісторыі, тут яшчэ толькі-толькі пачаты край!

**— А сам Генрых Далідовіч-празаік...**

— ...пішa заключную, другую кнігу рамана «Кліч роднага звона» пра ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага вакол Навагародка (першая кніга друкавалася ў часопісе «Полымя» ў 1995 г.) і заадно — новыя навелы з цыкла «Жар кахання. Апавяданні пра жанчын» (кніга з такой назваю выйшла летась у выдавецтве «Мастацкая літаратура». — **Л.Ч.**). Ёсць задума напісаць таксама раман пра Грунвальдскую бітву. Матэрыялу нямала, ёсць ідэя — і трэба здароўе, час, сродкі...

**— А як з публіцыстыкай?**

— Сапраўды, я нямала ў канцы 80-х і напачатку 90-х грашыў публіцыстыкаю, меў нямала цёплых водгукаў, але... Цяпер я не напішу лепш за аўтараў СВАБОДЫ. Значыць, трэба шукаць сябе ў іншым, там, дзе можаш быць моцны.

**— Пастаянна чытаеце СВАБОДУ?**

— Па падпісцы. І мушу сказаць: няшчыры той, хто называе СВАБОДУ рознымі непрыемнымі эпітэтамі. Каб у дзяржаўныя газеты хоць па адным свабодаўскім аўтары! Тады паменела б прыстасавальніцтва, хлусні, выслужвання на «барацьбе з нацыяналізмам», які, дарэчы, каб быў —дапамог бы нам стаць нацыяй!

*Гутарыла*
**Людміла ЧАПРОЎСКАЯ**



*Новы раман Генрыха Далідовіча — пра ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага. Таму ён тут, ля Навагрaдскіх муроў.*

**ПРАЖЭКТЫ**

# Каб кожнаму дзеду ды такіх унукаў!

**Па-дзелавому і без сантыментаў пачаў сваю дзейнасць створаны ў ліпені 1997 г. Міжнародны культурны фонд Кандрата Крапівы. Першая акцыя фонду — выстава «Сучаснае мастацтва Беларусі», якая адчынілася 12 жніўня ў Палацы мастацтва ў Мінску.**

Галоўнай мэтай новая арганізацыя ставіць *«садзейнічанне і падтрымку развіцця культуры, выяўленчага мастацтва і літаратуры ў Рэспубліцы Беларусь, Расіі і іншых краінах»*. У заяўленай праграме — стварэнне музея Кандрата Крапівы, узвядзенне ў Мінску помніка пісьменніку, выданне ягонай літаратурнай спадчыны, а таксама ажыццяўленне шэрагу культурніцкіх праектаў: Цэнтра мастацкай графікі, вялікай міжнароднай выставы выяўленчага мастацтва (дарэчы, адчыненая ў Мінску выстава павінна стаць першым, падрыхтоўчым крокам да будучай, грандыёзнай і міжнароднай).

Стварылі фонд унукі Кандрата Крапівы Мікалай і Алена Атраховіч, якія запрасілі паспрыяць культурнай ініцыятыве вельмі значных асобаў — Івана Шамякіна, Васіля Шаранговіча, Васіля Зуёнка (іначай кажучы, «зуброў» беларускай культуры), Сяргея Посахава (а гэта — прадстаўнік усемагутнай улады). Пакуль незразумела, ці збіраюцца знакамітыя заснавальнікі асабіста ўдзельнічаць у дзейнасці фонду — на адкрыцці першай выставы іх не было. Не было на вернісажы і асаблівай гаворкі пра Кандрата Крапіву — відаць, унукі вырашылі адкласці на потым чулыя словы пра дзядулю, чые гучныя тытулы далі ім магчымасць распачаць справу.

Здаецца, пакуль што стваральнікі фонду «распрацоўваюць» асабістыя кантакты, карыстаюцца даўнімі знаёмствамі і сяброўскімі сувязямі, каб набыць вядомасць, уключыцца ў культурнае жыццё. Намечаныя ініцыятывы выглядаюць выпадковымі, не звязанымі адной галоўнаю мэтай. Свае задачы новы фонд абазначае неканкрэтна — *«дзейнічаць на тых участках і накірунках культуры, якія сёння па шэрагу аб'ектыўных прычынаў выпалі са сферы практычнай дзейнасці і недастаткова поўна рэалізуюцца»*. Што гэта за накірункі — не паведамляецца. Фонд Крапівы мае нейкую дзіўнаватую нават для нашай культуры «міжнародную» накіраванасць: ледзь паспеўшы сарганізавацца, адчынілі ўжо прадстаўніцтва ў Маскве, размаўляюць і пішуць выключна па-руску. Геаграфія філій фонду Крапівы ўвогуле займальная — цяпер ён вядзе працу ў Маскве, Мінску і Баранавічах, а хутка плануе замацавацца ў Дзяржынску, Варшаве ды на радзіме Кандрата Крапівы (Уздзенскі раён).

А вось выстава ў руплівых унукаў знакамітага дзеда атрымалася добрая. У ёй удзельнічае вядомы жывапісец Барыс Казакоў, а таксама маладыя мастакі С.Рымашэўскі, Р.Вашкевіч, скульптар К.Селіханаў. Таленавітыя мастакі, цікавыя творы. Вось толькі пакуль што ні на адной карціне не намалявалі крапіву — эмблему новага фонду і сімвал будучага культурнага ўздыму Мінска, Варшавы, Баранавіч і Узды.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

